# ДЫРЭКТЫЎНА-ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЛІСТ

**Галоўнага Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня БССР**

**№ 3** = ВЫХОДЗІЦЬ 1 РАЗ У МЕСЯЦ = МЕНСК, КРАСАВІК 1929 г. **№ 3**


## І. ПЫТАНЬНІ АРГАНІЗАЦЫЙНАЕ ПРАЦЫ.

**справаздачнай кампаніі і перавыбарах Камітэтаў страхкас.**

У красавіку-траўні м-цы згодна пастановы Прэзыдыуму ЦСПСБ склікаюцца акруговыя зьезды прафсаюзаў. На гэтых зьездах будуць заслухоўвацца справаздачы Камітэтаў страхкас, рэўкамісій, а таксама справаздачныя даклады аб рабоце акруговых інспэкцый аховы здароўя.

Вопыт правядзеньня сумеснай справаздачнай кампаміі АПБ і Камітэтаў страхкас перад рабочымі масамі паказвае, што ў паасобных мясцох работа страхавых камітэтаў на сходах недастаткова папулярызавалася і справаздачы іх недастаткова прапрацоўваліся.

Неабходна, каб АПБ поўнасьцю забясьпечыла страхавым камітэтам пасьпяховае правядзеньне гэтае вельмі важнае работы.

Уся справаздачная кампанія павінна прайсьці пад лёзунгам шырокае папулярызацыі пастаноў VIII зьезду прафсаюзаў і крытыкі ўсёй работы Камітэтаў кас. Трэба даць магчымасьць разгарнуць спрэчкі па дакладах страхкас ня толькі аб дзейнасьці за мінулы год, але-ж і мерапрыемствах, намечаных у далейшай працы, для чаго трэба таксама застанавіцца ў дакладах на рашэньні, прынятым у сакавіку м-цы на Ўсебеларускай Нарадзе старшынь страхкас.

У мінулым годзе страхкасы Беларусі мелі значны перапом у сваёй рабоце ў бок палепшаньня абслугоўваньня застрахаваных. Трэба разгарнуць спрэчкі па гэтаму пытаньні для таго, каб выявіць думку застрахаванае масы і шляхам гэтага намеціць такія мэтады працы, якія-б у яшчэ больш значнай меры дапамаглі-б канчаткова ліквідаваць чаргі ў страхкасах і мелі-б уплыў на хутчэйшы і вычэрпваючы адказ застрахаваным.

Акрамя справаздач страхкас аб сваёй дзейнасьці на справаздачных сходах, рэкамэндуецца на больш буйных прадпрыемствах ў парадак дню ўключыць справаздачы акруговых інспэкцый аховы здароўя.

У справаздачнай кампаніі ў раёнах трэба ў асаблівасьці завастрыць увагу на папулярызацыі законадаўства па страхаваньні батрацтва і пастушаства і дапамогу мясцовых арганізацый у справе большага абхопу страхаваньнем батрацтва і пастушаства.

Акрамя вусных справаздачных дакладаў, трэба забясьпечыць асьвятленьне працы Камітэтаў страхкас у друку.

Даклады рэўкамісій павінны абхапіць ня толькі грашовую дзейнасьць страхкас, але і іх апэрацыйную і арганізацыйную працу.

Пры перавыбарах Камітэтаў страхкас неабходна зьвярнуць увагу на тое, каб у склад Камітэтаў былі ўцягнуты рабочыя з прадпрыемстваў, жанчыны ня менш таго проценту, які яны складаюць па суадносіне да ўсіх застрахаваных, моладзь і батрацтва.

Аб выніках перавыбарчай кампаніі АПБ і страхкасы павінны паведаміць ЦСПСБ і Галоўсацстрах не пазьней як праз 2 тыдні пасьля выбараў (у відзе кароткіх вынікаў).

Узгоднена з орган. аддзелам ЦСПСБ: *Каплан.*

## Аб падрыхтоўцы да ўстанаўленьня штатаў страхавых органаў на 1929-30 г.

Праца органаў сацыяльнага страхаваньня БССР у галіне абслугоўваньня застрахаваных, а таксама ў галіне. ўнутранай яе пастаноўкі за апошнія паўтара гады мела значныя зьмяненьні. Ужо маецца дастатковы вопыт працы з устаноўленым у 1927-28 годзе штатам і разьмеркаваньнем абавязкаў паміж супрацаўнікамі.

Зьмяненьні ў асобных галінах працы выклікаюць неабходнасьць перагледзець нагрузку супрацаўнікоў апарату страхкас, у сувязі з г... і штаты, выконваньне абавязкаў, намэнклятуру пасад і г. д., што да... магчымасьць унесьці яшчэ большую чоткасьць у пытаньні пастано... працы апарату.

Па прадстаўленьню Галоўсацстраху гэтыя пытаньні былі абмеркаваны на Калегіі НК РСІ 28-II—29 году (пратакол № 1, § 10) і вынесена пастанова аб тым, каб не пазьней ліпеня месяца г. г. прадставіць матар'ялы ў НК РСІ для перагляду нагрузкі, а таксама штату страхкас і райупаўнаважаных. Гэта пастанова мае таксама адбіцьцё у рашэньнях Усебеларускай Нарады Старшынь Страхкас.

Для таго, каб дасканальна вывучыць ступень нагрузкі апарату, неабходных зьмяненьняў і перагрупіроўкі ў складзе яго, страхкасам належыць зараз-жа прыступіць да ўсебаковай прапрацоўкі гэтага пытаньня з тым, каб не пазьней 10 чэрвэня г. г. усе матар'ялы па штатам былі-б накіраваны ў Галоўсацстрах для падагульваньня гэтае працы і ўнясеньня пытаньня ў НК РСІ. Да пасылкі матар'ялаў аб штатах і нагрузцы ў Галоўсацстрах трэба ўзгадніць іх з Акруговым РСІ і Акр. Аддз. Саюзаў Саўгандальслужачых, якія павінны прымаць удзел у гэтай рабоце.

Па тых Страхкасах, па якіх матар'ял сваячасова ня будзе належна прапрацаваны, Галоўсацстрах прымушан будзе ўнесьці яго без заключэньня гэтых кас.

Працу па вывучэньню ступені нагрузкі і ўстанаўленьню правільнай работы апарату кас трэба арганізаваць такім чынам, каб у ёй прыма... ўдзел супрацаўнікі-актывістыя і эканомкамісіі.

Вынікі гэтае работы будуць бязумоўна залежаць ад якасьці таго матар'ялу, які будзе пакладзен у падставу вывучэньня гэтага пытаньня. Усялякія новыя моманты, высоўваемыя касамі, павінны быць падгрунтаваны як лічбамі, так і фактамі па вопыту працы.

У аснову вывучэньня гэтага пытаньня неабходна пакласьці наступнае:

1. *Аб функцыях і намэнклятуры пасад*, застаўляючы ў аснаўным існуючы парадак разьмеркаваньня абавязкаў і намэнклятуры пасад, неабходна апошнія перагледзець толькі з пункту погляду большага ўдасканаленьня і зьмяненьня намэнклятуры тых пасад, па якіх зьмяніліся функцыі (напр., кантралёраў і ўпаўнаважаных пунктаў—у пасады арцельшчыкаў па выплаце на прадпрыемствах; ст. дзелаводаў—у ўпаўнаважаных інвалідных пунктаў і г. д.).

2. *Аб рабоце інспэктароў-кантралёраў.* — З прароблендай працы падагуліць нагрузку асоб па праверцы страхавацеляў, выяўленьня страхавацеляў, прымусовага спагнаньня страхавых узносаў пры абавязковым аслабаненьні інспэктароў-кантралёраў у далейшым ад непасрэднай іх работы ў бухгальтэрыі.

3. *Работа бухгальтэрыі, таксама па ўзыманьні і праверцы справаздачы.*—Падлічваць колькасьць апэрацый па ўзыманьні ўзносаў (улічваючы, што ўзыманьні павінны вытварацца 2 разы ў месяц), колькасьць страхавацеляў падае на аднаго рахункавода; прыём разьліковых веда-

масьцяй і праверка іх; сваячасовасьць запісаў па ўзыманьням; састаўленьне сьпіскаў даўжнікоў; вядзеньне працы па тарыфікацыі; праверка справаздачнасьці раёнаў (трэба мець на ўвазе, што ўзыманьне грошай павінна быць вытварана выключна праз банкаўскія арганізацыі).

4. *Работа апэрацыйнай часткі*: а) нормы выработкі па разрахункам асобных відаў дапамог; часовай непрацаздольнасьці, інваліднасьці, беспрацоўю і дадатковых відаў (матар'ял аб нормах маецца ў інфармацыйным лісту № 2). У гэтай галіне бязумоўна павінны быць прыняты пад увагу ўмовы працы кас, дзе праца вытвараецца асобнымі альфабэтыстымі і бяз іх; б) нормы выработкі для абсьледвацеляў беспрацоўных, упаўнаважаных па выплаце дапамог па прадпрыемствах і г. д.

Пры чым, падлічваюцца толькі тыя апэрацыі, якія вытвараюцца па застрахаваным гораду, а не раёну, бо выдачы ў раёнах павінны быць адзначаны кантралёрамі, якія правяраюць справаздачу, альбо трэба прапрацаваць пытаньне аб скарачэньні дубліраваньня запісаў па выдачам у раёнах па часовай непрацаздольнасьці.

5. *Па інваліднасьці і беспрацоўі*. Колькасьць заяў інвалідаў і беспрацоўных у месяц, дзён і г. д. Колькасьць прыблізна перапіскі па іх; праца па пасылцы на БУЭ, пераводы інвалідаў у другія гарады; праца у камісіі па стажу; выдача крэдытаваньня; колькасьць гадзін у дзень прымае тэхнічны працаўнік наведвацеляў і г. д. Пры чым тут трэба прымаць пад увагу, што замест спраў, якія заводзіліся на інвалідаў і беспрацоўных мы маем спрашчэньне ў відзе запаўненьня на іх толькі картак і зварот ім дакумантаў з адзнакамі аб прызначэньні альбо адмаўленьні.

6. *Па статыстыцы*. Нормы выработкі па наступных статыстычных работах; агульныя месячныя справаздачы; справаздачы па сялянскай гаспадарцы; складаньне карт хворасьці; складаньне квартальных справаздач па няшчасным выпадкам; складаньне квартальных справаздач па беспрацоўю; запаўненьне статкартак інвалідаў; справаздачы па накіраваньні на курорты, санаторыі і дамы адпачынку і г. д.

7. *Па сеці райупаўнаважаных*. Перагляд сеці у бок скарачэньня ўпаўнаважаных у тых раёнах, дзе маецца малая колькасьць застрахаваных і батрацтва і ўскладаньне гэтых абавязкаў па сумяшчэньню (згодна рашэньня Ўсебеларускай Нарады Старшынь страхкас).

*Бязумоўна, лічбы можна будзе даць толькі па тых працах, якія ў Страхкасах маюць масавы характар (нормы выработкі па асобных відах дапамог, па ўзыманьні і г. д.), па тых работах, як прыём беспрацоўных інвалідаў, работа інспэктароў, кантралёраў і г. д.; якую працу немагчыма заўсёды складсьці ў лічбах, дык у гэтых выпадках трэба, акрамя лічб кожнай працы, даць паясьненьні аб арыентовачным часу, які займае гэтая праца.*

Усе лічбы павінны быць узяты сярэднія па ўсіх разьліках, для чаго трэба ўзяць за пэўны адрэзак часу. Лепш за ўсе было-б, каб узяць іх за год, але ня менш як за поўгода, а таксама за час вывучэньня, прычым асабліва патрабуецца мець асобныя лічбы па апэрацыях, вытвараемых у горадзе асобна і па раёнах асобна.

Пры прадстаўленьні матар'ялаў у Галоўсацстрах трэба будзе дадаць і паясьняльную запіску аб выніках гэтае працы.

*Узгоднена з НК РСІ*
*і ЦП Саюзу Саўгандальслужачых.*

---

# Рэзалюцыі, прынятыя Усебеларускай Нарадай Старшынь Страхкас.

*(5—10 сакавіка 1929 г.)*

## А. Па дакладу тав. Меркулава аб фінансавым становішчы сацстрахаваньня і аб чарговых задачах органаў сацстраху Беларусі ў сувязі з выкананьнем бюджэту ў 1928-29 г. і рашэньняў VIII Усесаюзнага Зьезду Прафсаюзаў.

Ня гледзячы на некаторыя палепшаньні фінансавай работы органаў сацстраху Беларусі і некаторае ўзмацненьне іх фінансавага становішча, апошняе ўсё-ж застаецца яшчэ вельмі напружаным і мясцамі пагражае бесьперабойнаму абслугоўваньню застрахаваных.

Прыдаючы асабліва важнае значэньне рабоце па далейшаму ўзмацненьню фінансавага становішча сацыяльнага страхаваньня, нарада лічыць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы:

### 1. У галіне спагнаньня страхузносаў.

1. Увесьці ў практыку работы кантрольнага апарату страхкас сыстэматычную праверку поўнага ўцягненьня да страхаваньня ўсіх карыстаючыхся наймовай працай. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на абхоп будаўнічых і інш. сэзонных работ.

Перагледзець сьпіс прадпрыемстваў, праходзячых па льготнаму тарыфу, на прадмет адваротнага пераводу, фінансава ўзмацніўшыхся, на нармальны тарыф. Утварыць праверку правільнасьці ўстаноўленага касамі тарыфу на падставе існуючага законадаўства.

2. Дабіцца акуратнага прадстаўленьня страхавацелямі разрахунковых ведамасьцяў на працягу 28-29 г. ня менш 95 проц., зварочваючы асаблівую ўвагу на раённых страхавацеляў, у адносіне якіх справа абстаіць зусім нездавальняюча.

3. Праверыць правільнасьць прадстаўленых страхавацелямі ведаў аб выплачанай зарплаце, ахапіўшы праверкай у 28-29 г. ня меньш 50 проц. фонду заработнае платы, пры чым зьвярнуць асаблівую ўвагу на найбольш буйных страхавацеляў.

Паставіць пытаньне ў адпаведных органах аб прыцягненьні да суровай адказнасьці віноўных у дачы няправільных ведаў аб выплачанай зарплаце.

4. Шырока скарыстоўваць прадстаўленае страхорганам права бясспрэчна-прымусовага спагнаньня запазычанасьці, прыцягненьня да крымінальнае адказнасьці злосных неплацельшчыкаў для забясьпечваньня на працягу 28-29 г. поўнага 100-проц. спагнаньня бягучых налічэньняў і ўсёй астачы запазычанасьці мінулых год. Поўнасьцю спагнаць налічваемую пеню, сьпісваючы гэткую толькі ў самых выключных выпадках.

5. Пасьля зьмяненьня тэрмінаў уплаты страхузносаў, катэгарычна прытрымлівацца парадку ўплаты іх два разы ў месяц, маючы на ўвазе той значны фінансавы эфэкт, які чакаецца і зацьверджаны ў бюджэце на 28-29 г. Толькі ў выключных выпадках лічыць магчымым у адносіне невялікага кола маламоцных страхавацеляў паступовы пераход на новы парадак уплаты страхузносаў на падставе папярэдняе дагаворанасьці.

Дзеля забясьпечаньня пасьпяховага правядзеньня ў жыцьцё новага парадку уплаты страхузносаў, Галоўсацстраху неабходна прыняць належныя меры да ўзмацненьня рахунковага апарату страхкас.

**2. У галіне выдаткаваньня сродкаў.**

1. Забясьпечыць сваячаснае атрыманьне страхкасамі зацьверджаных у ўстаноўленым парадку цьвёрдых каштарысаў і іх рэальнасьць, шляхам сыстэматычнага нагляду за выкананьнем цьвёрдых каштарысаў, не дапушчаючы ніякіх перавыдаткаў.

2. Ухваляючы ў аснаўным прынятыя нарадай Начгалоўсацстрахаў пастановы аб унясеньні карактыў у правілы страхавога забясьпечаньня ў сэнсе выключэньня з ліку забясьпечваемых сацстрахаваньнем асоб, якія да рэвалюцыі жылі на непрацоўныя прыбыткі, служачых жандармэрыі, паліцыі і ўсіх другіх урадавых устаноў, якія мелі сваёй мэтай барацьбу з рэвалюцыйным рухам, а таксама—аб скарачэньні некаторых нявытворчых апэрацыйных выдаткаў,—даручыць Галоўсацстраху распрацаваць і падаць ў СССС шэраг практычных прапаноў, выцякаючых з мясцовых умоў.

3. Поўны і сваячасны перавод Галоўсацстраху ўсіх адлічэньняў у цэнтралізаваныя рэспубліканскія фонды, а таксама і ва Ўсесаюзныя цэнтралізаваныя фонды, незалежна ад ступені дэфіцытнасьці данае касы,—лічыць абавязкам усіх акрстрахкас. Водпуск датацыі Галоўсацстраху вытвараць выключна па датацыйных патрабаваньнях, прад'яўляемых касамі пры поўным дэтальным аналізе фінансавае работы касы і аб'ектыўнасьці прычын дэфіцыту.

4. Зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на пытаньне аб разьмеркаваньні грашовых сродкаў па паасобных артыкулах актыву з тым, каб, па-першае, максымальна паменшыць разьмер сум, застаючыхся ў раёнах, даводзячы гэткія да мінімальна неабходнага рэзэрву і, па-другое, поўнасьцю ліквідаваць выпадкі знахаджэньня якіх-небудзь сум неспагнанымі па рахунку розных асоб і ўстаноў.

**3. У галіне масавае работы і абслугоўваньня застрахаваных.**

Улічваючы, што стаячыя перад імі задачы органы сацыяльнага страхаваньня змогуць выканаць толькі пры ўмове актыўнага падтрыманьня з боку шырокіх колаў рабочай грамадзкасьці, страхкасы павінны правесьці наступныя мерапрыемствы па масавай рабоце і па палепшаньню абслугоўваньня застрахаваных:

а) увесьці аднолькавую форму сыстэматычнай справадачнасьці кас перад застрахаванай масай, прыбліжаючы іх да месца работы застрахаваных і злучаючы з папулярызацыяй страхавога заканадаўства і справачнай інфармацыяй застрахаваных аб парадку работы страхорганаў;

б) пашырыць практыку пастаноўкі дакладаў камітэтаў кас, а таксама адчыненых пасяджэньняў к-таў кас на буйных прадпрыемствах;

в) распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы для забясьпечаньня лепшага і поўнага выкарыстаньня асыгнаваньняў на страхасьвету, звярочваючы іх, галоўным чынам, на выдаткі па папулярызацыі страх. заканадаўства сярод шырокіх мас застрахаваных, а таксама на абслугоўваньне ў галіне страхавой асьветы нізавога прафсаюзнага і страхавога актыву;

г) паўсяместна ўвесьці інстытут страхдэлегатаў. Паставіць іх работу так, каб яны ў поўнай меры служылі папулярызатарамі страхзаканадаўства і страхінфармацыі сярод застрахаваных, абслугоўваемых імі прадпрыемстваў і, з другога боку, памочнікамі страхкасы ў справе сыстэматычнага палепшаньня пастаноўкі работ па абслугоўваньню застрахаваных;

д) далейшае рашучае зблiжэньне абслугоўваньня да застрахаванай масы, шляхам пераходу на выдачу дапамог непасрэдна на прадпрыемствах, на даму як праз апарат страхкасы, так і праз адпаведных кантрагэнтаў—пошты, касы ашчаднасьці і г. д.

## Б. Па дакладу аб мерапрыемствах па далейшаму паглыбленьню страхаваньня батрацтва і пастушаства ў БССР.

*(т. т. Амстэрдам, Лашкевіч і Міруц)*

1. Першы год практычнага правядзеньня закону аб сацыяльным страхаваньні батрацтва ва ўмовах БССР даў наогул нездавальняючыя вынікі. Застрахавана 5.740 чалавек (з іх па 10 проц.—397, па 6 проц.—4.446 чал. і па 3 проц.—973 чал.), што дае толькі 11 проц. афхопу ў адносіне да ўсяго батрацтва і пастушаства, якое павінна быць застрахавана ў абавязковым парадку (46.000 чал.). Яшчэ больш слаба было пастаўлена абслугоўваньне застрахаванага батрацтва, як па лініі аказаньня страхавой дапамогі, так і лекавымі ўстановамі. Аб гэтым сьведчаць наступныя лічбы: выдаткавана на дапамогу батрацтву да І/Х—545 р., за гэты-ж час атрымана ўзносаў 10.643 р.

2. Грунтоўнымі прычынамі слабога правядзеньня закону аб страхаваньні батрацтва былі:

а) раскіданасьць батрацкае масы, адсутнасьць месц значнага яе згуртаваньня;

б) перашкоды арганізацыйнага характару: позьняе апублікаваньне інструкцыі і рассылка на месцы формаў і блянкаў справаводзтва, складанасьць і недастатковасьць прыстасаваньня гэтых формаў і наогул тэхнікі работы;

в) у пераважнай большасьці выпадкаў адсутнасьць патрэбнага актыўнага садзейнічаньня райупаунаважаным сацстраху з боку мясцовых савецкіх органаў (сельсаветы і РВК), пры чым страхкасы і Галоўсацстрах недастаткова на гэта рэагавалі;

г) зусім слабае азнаямленьне як барацтва, так і наймальнікаў і нават работнікаў с.-с. і саюзу з законам і практычным парадкам яго правядзеньня;

д) поўная бязьдзейнасьць часткі ўпаўнаважаных, невыстарчальная ўвага другой часткі іх пры адсутнасьці жывога інструктаваньня на месцы і кантролю з боку акрстрахкас.

3. У некаторых выпадках разгортваньне страхаваньня батрацтва тармазіла недастатковая ўвага і дапамога гэтай рабоце з боку мясцовых органаў саюзу.

4. Вопыт паказвае, што ў тых мясцох, дзе ўпаўнаважаныя і саюзныя арганізацыі выявілі патрэбную зацікаўленасьць, дзе ў дапамогу былі ўцягнуты савецкія і партыйныя арганізацыі, абхоп страхаваньнем батрацтва значна пашырыўся. (Пухавіцкі раён, Менскае акругі, Брагінскі раён, Гомельскае акругі і інш.).

5. Набліжаючыйся сэзон найму батрацтва і пастушаства патрабуе ад органаў сацстраху, саюзу і аховы здароўя максымальнага праяўленьня энэргіі і ініцыятывы ў справе найбольшага абхопу сацстрахаваньнем батрацтва і ў кулацкіх гаспадарках, і грамадзкіх пастухоў, і таксама разгортваньня дабраахвотнага страхаваньня.

6. Лічыць неабходным абхапіць у парадку абавязковага сацстрахаваньня на тэрыторыі БССР 26.100 чал. (з іх ня менш 8.000 батракоў). Па паасобных акругах устанавіць наступнае разьмеркаваньне:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Менск . . . . . | 5.000 | Магілеў . . . . . | 4.000 |
| Віцебск . . . . . | 2.000 | Ворша. . . . . . | 3.200 |
| Гомель . . . . . | 4.500 | Полацк . . . . . | 1.600 |
| Бабруйск . . . . | 4.500 | Мазыр . . . . . | 1.300 |

7. Для ажыцьцяўленьня вышэйпаказанага належыць:

а) акрстрахкасам на падставе пляну абхопу сацстрахаваньнем батрацтва акругі (п. 6) і вучоту ўмоў кожнага раёну вызначыць цьвёрдыя

параёнными лічбы батрацтва і пастушаства, якое павінна быць застрахавана ў 1929 г. па абавязковаму страхаваньню, і скласьці дэталёвыя пляны работы па страхаваньню батрацтва; вызначыць найбольш важныя па страхаваньню батрацтва раёны і ўнутры іх сельсаветы, на якія зьвярнуць асаблівую ўвагу, накіроўваючы прадстаўнікоў акрстрахкасы ў гэтыя месцы ў першых чыслах красавіка для дапамогі ў патрыхтоўцы правядзеньня страхаваньня і вывучэньня вопыту работы;

б) для інструктаваньня, практычнага наказу і праверкі работы райупаўнаважаных па сацстрахаваньню батрацтва зрабіць ня менш аднаго выезду работнікаў страхкас у кожны раён;

в) на падставе маючыхся паказаньняў СНК Беларусі і АВК, а таксама НКПрацы БССР патрабаваць ад РВК і сельсаветаў найбольшага ўдзелу і дапамогі рабоце райупаўнаважаных па выяўленьні гаспадарак прамысловага тыпу, азнаямленьні наймальнікаў з парадкам правядзеньня закону і прымушэньні—узьдзейнічаньня на наймальнікаў, якія ўхіляюцца ад выкананьня сваіх абавязкаў. Аб кожным выпадку нядбайных адносін, сыстэматычнага невыкананьня с.-с. абавязкаў у дапамозе ў правядзеньні страхаваньня ставіць пытаньне перад РВК і іншымі арганізацыямі аб прыцягненьні іх да адказнасьці. Акрстрахкасам рабіць тое-ж самае ў адносіне РВК;

г) на падставе інструкцыі НКПБ (ад 27/IX № 50 Бюл. СНК, № 12/55 за 1928 г.) настойваць і прасачыць за тым, каб сельсаветамі былі праведзены выбары ўпаўнаважаных сельскіх грамад, што наймаюць пастухоў, і сьпіскі абраных прысланы райупаўнаважаным не пазьней 15 траўня; райупаўнаважаным на падставе сьпіскаў гаспадарак прамысловага тыпу (складзеных с.-с. згодна пастановы НКПрацы Беларусі ад 10 ліпня 1928 г. № 46), дадзеных з РВК па абкладаньню с.-г. падаткам, ведаў саюзу і ўласных, скласьці не пазьней 1 траўня сьпіскі кулацкіх гаспадарак, падлягаючых абавязковаму страхаваньню;

д) карыстаючыся сьпіскамі абраных упаўнаважаных сельскіх грамад і сьпіскамі кулацкіх гаспадарак, райупаўнаважаныя да 15 траўня павінны разаслаць паведамленьні кожнаму з іх аб яўцы на вызначаны час для афармленьня сацстрахаваньня. У выпадку няяўкі пасьля другога напамінку прыцягваць кулацкія гаспадаркі праз Інспэкцыі Працы, а ўпаўнаважаных сельскіх грамад—праз РВК да адміністрацыйнай адказнасьці (накладаць штраф).

У асобныя пункты і сельсаветы, дзе маецца значная колькасьць страхавацеляў, замест выкліку іх у канцэлярыю райупаўнаважанага,—вызначыць на абмежаваны час выезды ў сельсаветы для афармленьня на месцы, паведаміўшы аб гэтым папярэдня страхавацеляў;

е) на працягу сакавіка—траўня разгарнуць шырокую тлумачальную кампанію аб зьмесьце закону і, галоўнае, аб практычным парадку яго правядзеньня. Даклады райупаўнаважаных пра гэтае перш за ўсё павінны быць пастаўлены на батрацкіх канфэрэнцыях і на пленуме РВК, ці на нарадах старшынь с.-с., далей на сходах батрацтва, на пленумах кожнага с.-с. і, пасьля гэтага, на сходах сялян. Для правядзеньня гэтае работы павінен быць выкарыстаны ўвесь актыў саюзу с.-г. і лясных рабочых, загадчыкі хат-чытальнь, камсамольскі актыў і настаўніцтва, а райупаўнаважаныя павінны забясьпечыць інструктаваньне іх. У далейшым райупаўнаважаны павінен выкарыстоўваць кожную магчымасьць для папулярызацыі сярод батрацтва і наймальнікаў закону і карыснасьці дабраахвотнага страхаваньня і г. д. Павінны быць складзены дэталёвыя пляны мерапрыемстваў па папулярызацыі закону і ўключаны ў агульны плян работы па страхаваньню батрацтва. Дамовіцца і прыцягнуць да растлумачальнае работы палітасьветныя ўстановы вёскі (хаты-чытальні, нардамы);

ж) наладзіць цесную сувязь і ўзаемную дапамогу ва ўсёй практычнай рабоце па сацстрахаваньню батрацтва паміж райупаўнаважанымі і саюзам с.-г. і лясных рабочых, рашуча зжыўшы ўсе меўшыяся ў мінулым годзе недарэчнасьці, няўвязкі. Галоўсацстраху разам з ЦП саюзу распрацаваць і даць мясцом дэталёвыя паказаньні пра практычныя формы ўзаемнае дапамогі;

з) устанавіць, што дагавор, заключаны з гаспадаркамі, калі ў яго ўклюючана згода наймальніка застрахаваць батрака, зьяўляецца адначасна зго-дай на дабраахвотнае страхаваньне і, на падставе сьпіскаў гэткіх дагавораў, якія сельрабачкомамі павінны прысылацца райупаўнаважанаму, апошні проста афармляе іх, як ужо згадзіўшыяся;

і) Галоўсацстраху да 1 красавіка б.-г. перагледзець існуючыя формы і тэхніку справаводзтва ў бок іх найбольшага спрашчэньня, а таксама не пазьней вышэйпаказанага тэрміну выдаць плякат з папулярным зьместам момантаў страхаваньня батрацтва і пастушаства.

8. Галоўсацстраху паказаць НК Аховы Здароўя на неабходнасьць большага набліжэньня мэддапамогі да мясцоў вялікага сканцэнтраваньня батрацтва, таксама ўлічваючы гэты момант пры далейшым пашырэньні мэдыцынскае сеткі. Страхкасам сваячасна ўстанавіць сьпіс пунктаў, дзе яны даюць лекпомам права прадстаўляць водпуск батраком па часовай непрацаздольнасьці.

9. Для лепшага абхопу наймальнікаў па спагнаньні ўзносаў і застрахаваных па абслугоўваньні страхкасам выкарыстаць усе магчымасьці на мясцох па прыцягненьню да гэтае работы кас ашчаднасьці, пошты, сельрабачкомаў, савгаспадарак і інш.

10. Страхкасам на падставе сваіх плянаў па разгортваньню работы па сацстрахаваньню батрацтва скласьці каштарысы на неабходныя дадатковыя сродкі па правядзеньню гэтае работы, якія прадставіць у Галоўсацстрах. Перагледзець разьмеркаваньне сум, адпушчаных на абсьледваньне раёнаў з мэтай перагрупоўкі іх у адпаведнасьці з кантынгэнтам батрацтва ў паасобных раёнах, прыурочваючы час абсьледваньняў да моманту найбольшага разгортваньня работы па сацстрахаваньню батрацтва.

---

## В. Па дакладу т. Давідовіча аб далейшай рабоце па спрашчэньні і палепшаньні абслугоўваньня застрахаваных.

Нарада адзначае, што органы сацыяльнага страхаваньня Беларусі маюць значныя дасягненьні ў галіне рацыяналізацыі працы апарату, прыбліжэньня яго да застрахаваных, спрашчэньня формаў абслугоўваньня, пры адначасным патаненьні каштоўнасьці апарату.

Уся гэта работа праведзена ў адпаведнасьці з дырэктывамі VII зьезду прафсаюзаў.

У далейшым, для яшчэ большага пашырэньня і паглыбленьня мерапрыемстваў па рацыяналізацыі працы, нарада лічыць неабходным ажыцьцявіць наступнае:

### 1. У галіне прыбліжэньня апарату да застрахаванае масы бліжэйшымі задачамі зьяўляюцца:

а) паўсюды поўны абхоп інстытутам арцельшчыкаў усіх прадпрыемстваў і ўстаноў, якія налічваюць больш 50 чал. застрахаваных, больш пашыранае дапасаваньне дагаворных начал з застрахавацелямі аб зборы

і дастаўцы імі аркушаў у страхкасы для разьліку, а таксама і па выкарыстаньні іх апарату (скарбнікаў) па выплаце дапамог па часовай непрацаздольнасьці;

б) перайсьці на выплату дапамог па дадатковых відах на тых прадпрыемствах, дзе выплачваецца па часовай непрацаздольнасьці;

в) увесьці аплату больнічных аркушаў у вячэрнія гадзіны.

### 2. У адносіне спрашчэньня тэхнікі выдачы дапамог і пэнсіі.

Прызнаючы, што вопыт, праведзены ў Менску, сябе апраўдаў, лічыць неабходным выдачу пэнсіі пэнсыянэрам у гарадох праводзіць праз спэцыяльных арцельшчыкаў, а ў адлеглых мясцовасьцях раёну—праз пошту. Дзеля гэтага належыць:

а) Галоўсацстраху заключыць генэральны дагавор з Наркампачтэлем;

б) страхкасам, выходзячы з наяўнасьці пэнсыянэраў, у кожнай паасобнай акрузе альбо сумясьціць абавязкі арцельшчыка з пасадай кантралёра-абсьледвацеля, альбо ўвесьці спэцыяльную адзінку арцельшчыка, Гомельскай-жа касе правесьці ў відзе вопыта выплату пэнсій праз касы ашчаднасьці.

*У адносіне выплаты дапамоі па беспрацоўю.* Належыць абставіць працу такім чынам, каб выпісваньне дапамогі не парушала парадку каталёгу (устанаўленьне расьпісаньня дзён здачы кніжак на біржы па нумарох кніжак беспрацоўных, супадаючых з №№ асабістых рахункаў) з тым, каб патрэбныя даведкі па разьліках маглі быць наведзены ў дні выплаты. Адначасна з гэтым вывучыць пытаньне адносна таго, каб давесьці зварочваемасьць кожнага беспрацоўнага ў страхкасу і на біржу да аднаго разу ў месяц, злучыўшы адзнаку беспрацоўнага на біржы з момантам атрыманьня дапамогі.

### 3. Па пытаньні аб скарачэньні інстанцый і тэрмінаў прахаджэньня спраў.

Лічыць неабходным:

а) каб у больш буйных касах адзін сябар камітэту ў устаноўленыя гадзіны прымаў беспрацоўных і інвалідаў з тым, каб астатнія на месцы маглі атрымаць адказ на сваю заяву аб выдачы дапамогі;

б) каб па меры награмаджэньня вопыту ў райупаўнаважаных і агульнага ўзьняцьця іх кваліфікацыі прадставіць ім права ў бясспрэчных выпадках прызначаць дапамогу па беспрацоўю з наступнай праверкай касы, прычым ад сыстэмы камісіі па прызначэньню дапамог па беспрацоўю ў раёнах адмовіцца;

в) па пэнсыянаваньню адзначыць, што кодыфікацыя законадаўства, перахад прызначэньня пэнсіі ў бясспрэчных выпадках да аднаго члена камітэту і ўзрост гібкасьці апарату мелі ўплыў на скарачэньне прахаджэньня спраў. У далейшым прыняць меры да яшчэ большага скарачэньня тэрміну прахаджэньня спраў пры ўстанаўленьні больш чоткай работы апарату і стандартызацыі спраў дзелаводзтва;

г) у мэтах спрашчэньня прахаджэньня спраў і вызваленьня сяброў к-ту кас ад тэхнічнае працы—нарада лічыць неабходным пастановай к-ту касы прадставіць пэўным работнікам касы права подпісу на лекавых аркушох, ардароў пэнсыйных і беспрацоўных кніжак і кніжак на карменьне, прычым самыя кніжкі гэтыя павінны і ўперад абавязкова падпісвацца сябром к-ту;

д) для таго, каб даць магчымасьць застрахаваным зьвярнуцца ў страхкасу пасьля скончэньня працы ў прадпрыемствах і ва ўстановах, неабходна

для паасобных частак страхкас, непасрэдна абслугоўваючых застрахаваных, устанавіць такія гадзіны работы, якія далі-б магчымасьць застрахаванаму зварочвацца ў касу незалежна ад гадзін сваёй працы. Таксама неабходна гадзіны працы райупаўнаважаных прыстасаваць да лепшага абслугоўваньня застрахаваных раёнаў.

**4. У галіне ўпарадкаваньня штатаў, дзяржнармаваньня і ўстанаўленьня норм вырабаткі належыць:**

а) Пакінуць маючуюся сетку райупаўнаважаных, існуючую ў 28-29 г., прымаючы пад увагу неабходнасьць абхопу сацстрахаваньнем батрацтва і пастушаства. У тых раёнах, дзе няма значнае колькасьці батрацтва і лік застрахаваных не перавышае 200 чал.,—лічыць магчымым, не вылучаючы спэцыяльнага ўпаўнаважанага, ускласьці абавязкі на каго-небудзь у парадку сумясьцідельства;

б) вынікі зьмены ў некаторых працэсах тэхнічнае работы страхкас, увадзімых новымі формамі справаводзтва і момантамі рацыяналізацыі, павінны быць вывучаны сумесна з саюзам прыкладна да ліпня м-ца з тым, каб былі ўнесены патрэбныя карактывы ў структуру і штат кас пры складаньні бюджэту на 1929-30 г.;

в) страхкасам сумесна з эканомкамісіямі неадкладна прыступіць да вывучэньня пытаньня аб нормах вырабаткі, узгадняючы вынікі вывучанага вопыту з мясцовымі органамі саюзу і РСІ. Усе гэтыя матар'ялы прадставіць у Галоўсацстрах у трохмесячны тэрмін.

**5. Па пытаньню аб формах справаводзтва неабходна адзначыць:**

а) што формамі справаводзтва, распрацаванымі ЦУСТРАХАМ, ня прыняты пад увагу умовы працы мясцовых органаў (адсутнасьць адзнакі аб выдачы пэнсіі ў асабістай картцы пэнсыянэра, адсутнасьць паведамленьня да лекавага аркушу). Страхкасы павінны адначасна з увядзеньнем гэтых формаў дзелаводзтва вывучыць усе выяўленыя ў практыцы работы недахопы ў мэтах узьняцьця Галоўсацстрахам перад ЦУСТРАХАМ пытаньня аб унясеньні неабходных карэктываў;

б) наяўнасьць неўпарадкаванага архіву ў страхкасах і надзвычайная захаращанасьць каталёгаў ускладняюць і перашкаджаюць рабоце страхкас. Лічыць неабходным у каштарысах на 29-30 г. прадугледзіць адпаведную суму грошай для правядзеньня архіваў і каталёгаў у адпаведны парадак.

Бягучы кантроль над вядзеньнем каталёгу ўскласьці на статыстыку;

в) адзначыць, што побач з увядзеньнем у жыцьцё новых формаў справаводзтва неабходна правесьці:

хутчэйшую рацыяналізацыю тэхнікі прыёму страхавых узносаў за хатніх работніц (паўсюднае ўстанаўленьне сярэдняе зарплаты), стандартная кніжка замест штомесячнага прадстаўленьня ведамасьцяў, марачная сыстэма, альбо спагнаньне праз контрагентаў, а таксама рацыяналізацыя тэхнікі форм спагнаньня наагул і бясспрэчна-прымусовага спагнаньня ў прыватнасьці;

упарадкаваньне пратакольнага справаводзтва з устанаўленьнем тэхнікі кантролю над выкананьнем пастаноў К-таў і прэзыдыумаў, устанаўленьне цьвёрдае намэнклятуры спраў, парадку вучоту і хаваньня дакумантаў і г. д.;

устанаўленьне стандартных форм справаводзтва і справаздачнасьці ў раёнах, пры чым бліжэйшай задачай, якая можа даць значны эфэкт у спрашчэньні работ кас, павінна зьявіцца вывучэньне пытаньня магчымасьці спыненьня вядзеньня асабістых рахункаў застрахаваных па раёнах у касах.

### 6. Аб плянавасьці ў працы.

Пытаньням пляну і праверцы выкананьня дырэктыў належыць вылучаць большае месца. Парадак складаньня плянаў павінен гарантаваць поўнае іх выкананьне. Трэба, каб асноўныя мерапрыемствы, уключаемыя ў пляны Галоўсацстраху, знайшлі сваё адбіцьцё ў плянах (складаемых пазьней па часу) акрстрахкас і райупаўнаважаных, пераламляючыся там у адпаведнасьці з умовамі месца і практычнага парадку іх выкананьня. Агульныя пляны абавязкова павінны ісьці побач з каляндарнымі расьпісаньнямі і вылучэньнем адказных асоб за выкананьне паасобных пунктаў. Адначасна з гэтым павінен быць устаноўлен чоткі вучот выкананьня дырэктыў вышэйстаячых страхорганаў, пастаноў к-таў і прэзыдыумаў кас, выкананьня пляну, павінны заслухвацца ў плянавым парадку справаздачы паасобных членаў К-ту аб іх рабоце і г. д.

### 7. У галіне кіраваньня работай месцаў належыць:

а) узмацніць у будучым жывую сувязь з мясцамі, бязумоўна выконваць каляндарныя пляны абсьледваньня з тым, каб не радзей аднаго разу ў два гады вытваралася адно паглыбленае абсьледваньне і аднаго разу ў год—праверка выкананьня дырэктыў кожнай акрстрахкасай, а таксама два разы на працягу году вытваралася-б касай абсьледваньне кожнага раёну, пры чым абсьледваньне павінна мець, як і да гэтага часу, грамадзкі характар з прыцягненьнем да яго рэўкамісіі, эканомкамісіі, страхдэлегатаў, прафорганаў, РСІ і шырокіх мас застрахаваных;

б) інфармацыйна дырэктыўныя лісты, выдаваемыя адзін раз у месяц, павінны па зьместу прадстаўляць сабой кіруючыя паказаньні па аснаўных пытаньнях работы па сацстраху, кансультацыйнага характару па паасобных пытаньнях з асьвятленьнем вопыту месцаў, пэрыядычных (квартальных, поўгадавых) фінансава-статыстычных аналізаў у акруговых разрэзах і, нарэшце, з аддзелу хронікі. У акрстрахкасах таксама павінен дапасоўвацца мэтад пасылкі пэрыядычных лістоў, як сродак кіраваньня работай райупаўнаважаных і дача ім паказаньняў па штомесячных фінансавых справаздачах;

в) практыкаваць кароткатэрміновыя выезды інспэктароў Галоўсацстраху ў паасобныя касы для практычнага правядзеньня пэўных заданьняў;

г) абсьледваньне страхкас утвараць ня толькі сіламі Галоўсацстраху, але практыкаваць абсьледваньне адных страхкас сіламі другіх страхкас;

д) выкарыстаць радыё для шырокай інфармацыйна-дырэктыўнай работы па загадзя выпрацаванаму пляну, шырока абвешчанаму, весьці ў намечаныя дні і гадзіны гутаркі па пытаньнях сацстраху.

### 8. У адносіне якаснага падбору асабістага складу апарату страхорганаў неабходна:

а) з прычыны наяўнасьці некаторых выпадкаў бюрократызму з боку паасобных працаўнікоў—праверыць наяўны склад страхавых работнікаў;

б) узмацніць кантроль за работай супрацоўнікаў і пашырыць адказнасьць за выконваемую імі работу;

в) узьняць кваліфікацыю страхавых работнікаў шляхам арганізацыі на мясцох гурткоў па сацстраху, а пры Галоўсацстраху—курсаў па сацстраху для райупаўнаважаных у 1929 г.;

г) дабівацца замацаваньня вылучаных для страхавой работы асоб на больш доўгі час, у асаблівасьці райупаўнаважаных;

д) узмацніць прыцягненьне ў лік страхработнікаў новых кадраў працаўнікоў, асабліва перадавых рабочых, жанчын, моладзі і батрацтва.

**9. У галіне масавае работы неабходна:**

а) на падставе пастановы VIII зьезду профсаюзаў і маючагася ўжо вопыту работы страхдэлегатаў (Магілеў, Полацк) узьняць пытаньне перад ЦСПСБ аб паўсюдным увядзеньні інстытуту страхдэлегатаў;

б) практыкаваць больш шырока пасяджэньні К-таў кас на прадпрыемствах з папярэдняй дакладнай падрыхтоўкай парадку дня і своечасным асьведамленьнем адпаведных калектываў прадпрыемстваў для забясьпечаньня шырокага наведваньня і ўдзелу іх у абгаварэньні пытаньняў на адпаведных пасяджэньнях К-таў;

в) бязумоўнае выкананьне маючыхся дырэктыў аб справаздачных дакладах на буйных прадпрыемствах і ва ўстановах ня менш аднаго разу ў 6-м м-цаў, дзеля чаго дабівацца ўключэньня гэтых справаздачных дакладаў у пляны работ ФЗМК і акраддзяленьняў саюзу;

г) шырэй удзельнічаць у правадзімых прафарганізацыямі вечарох пытаньняў і адказаў, прымаючы пад увагу пажаданьне рабочых і іх паказаньні аб недахопах у рабоце;

д) прыцягваць паасобных членаў камітэтаў для сыстэматычнага вядзеньня ў прадпрыемствах паясьняльнае работы па пытаньнях страхавога законадаўства і практыкі і нагляду за адпаведным укамплектаваньнем бібліятэк адпаведных калектываў літаратурай па сацстраху;

е) лічыць неабходным арганізацыю куткоў сацстраху пры прафсаюзных клюбах;

ж) вылучэньне членаў К-таў і супрацоўнікаў для сыстэматычнага ўдзелу ў друку па пытаньнях паясьненьня законадаўства па сацстраху і асьвятленьню бягучых пытаньняў страхавой практыкі, у тым ліку і пытаньняў мэддапамогі;

з) вядзеньне масавай работы сярод інвалідаў шляхам арганізацыі для іх кутка і забясьпечаньня яго літаратурай.

Правядзеньне рацыяналізатарскае работы па палепшаньню абслугоўваньня застрахаваных можа быць поўнасьцю ажыцьцёўлена толькі пры актыўным удзеле ў гэтай працы экономкамісій. Выходзячы з гэтага:

а) прасіць ЦП саюзу саўгандальслужачых прыняць неабходныя меры да ўзьняцьця інтэнсыўнасьці работы экономкамісіі;

б) страх. камітэтам прымаць канкрэтныя меры ў галіне рацыяналізацыі толькі пасьля папярэдняга абмеркаваньня кожнага паасобнага мерапрыемства на экономнарадзе;

в) страхавыя касы павінны весьці вучот правядзеньня ў жыцьцё пастаноў экономкамісіі;

г) утварыць пры Галоўсацстраху спэцыяльны фонд прэміраваньня супрацоўнікаў за лепшую прапанову ў галіне рацыяналізацыі.

---

## Г. Па дакладу тав. Гольдзіна „Стан захворваемасьці і прамысловага траўматызму ў БССР і задачы страхавых кас“.

Нарада старшынь страхкас пры Галоўсацстраху БССР ад 5—9 сакавіка 1929 г. канстатуе, што паказальнікі захворваемасьці і прамтраўматызму БССР застаюцца вялікія.

Данае становішча зьяўляецца вельмі ненармальным; яно, з аднаго боку, хістае нармальную работу прадпрыемства, з другога боку, падрывае фінансавы дабрабыт оргачаў сацстрахаваньня. Павышаная захворваемасьць і траўматызм па БССР тлумачыцца наступнымі момантамі: 1) санітарным становішчам прадпрыемстваў, 2) становішчам тэхнікі бясьпекі і аховы працы, 3) жыльлёва-бытавымі ўмовамі рабочых і 4) станам

мэддапамогі рабочым, якія ў большасьці нездавальняючыя. У мэтах пляномернае і сыстэматычнае барацьбы за паніжэньне паказальнікаў па агульных захварваньнях і прамтраўматызму сярод застрахаваных нарада прызнае неабходным:

а) Страхкасы павінны ў поўным кантакце з акруговымі інспэкцыямі працы быць зацікаўленымі ў пастаноўцы тэхнікі бясьпекі і аховы працы на прадпрыемствах. У мэтах гэтага страхкасы павінны прымаць актыўны ўдзел у правядзеньні дагаворнае кампаніі па тэхніцы бясьпекі і ахове працы, дзеля чаго папярэдня дагаварыцца з інспэкцыямі працы аб карыстаньні ведамі і лічбамі, якія маюцца ў касах па захворваемасьці і прамтраўматызму па паасобных прадпрыемствах.

б) Пры выяўленьні росту паказальнікаў на якім-небудзь прадпрыемстве страхкаса павінна выявіць ініцыятыву і сумесна з інспэкцыяй працы даскакала абсьледваць данае прадпрыемства, выявіць прычыны раптоўнага, а тым больш сыстэматычнага росту дзён непрацаздольнасьці і ў адпаведным акце зафіксаваць усе гэтыя моманты і праз акраддзел працы запрапанаваць іх зьнішчыць. У выпадку невыкананьня прадпрыемствам паказаных запатрабаваньняў, карыстацца прадстаўленым страхкасам правам рэгрэсыўнага іску пры траўмах. Нарада лічыць неабходным увядзеньне паашчрыцельна-карацельнага тарыфу, рэглямэнтуючы дэтальна парадак яго дапасаваньня.

в) Падлічваючы вялізарны ўплыў на велічыню паказальнікаў дзён часовай непрацаздольнасьці становішча працы усёй сеткі аховы здароўя: санітарнае справы, пастаноўкі лячэбнае справы ў амбуляторыях і стацыянарах, мэдыка-прафіляктычнае справы ў дыспансэрах, мэдпунктах на прадпрыемствах і др. прафіляктычных установах, максымальнага выкарыстаньня наяўнага коечнага фонду для застрахаваных, нармальных узаемаадносін паміж хворымі і лечачымі ўрачамі, сьвядомасьць поўнае адказнасьці апошніх як за аказваемую мэддапамогу, таксама і за правільнае прадстаўленьне водпуску па хваробе, правільнае і мэтазгоднае выдаткаваньне сродкаў фонду мэддапамогі страхкасы павінны: 1) пэрыядычна ставіць на пасяджэньні К-ту касы даклады Акр. інспэктуры аховы здароўя загадчыкаў паасобных лячэбных і лячэбна-прафіляктычных устаноў, даклады санітарных камісій і садаклады прымацаваных да іх членаў К-ту альбо даручаных урачоў, выяўляць на іх усе існуючыя недахопы і прымаць меры да іх адхіленьня і зьнішчэньня праз інспэктуру аховы здароўя, сыстэматычна правяраючы іх паказаньне; 2) камітэтам кас і рэвізыйным камісіям пры іх сыстэматычна вытвараць рэвізіі ў паасобных лекавых установах, якія абслугоўваюць застрахаваных, як пастаноўкі мэддапамогі і абслугоўваньня рабочых, так і правільнасьці выдаткаваньня фондаў мэддапамогі ў гэтых установах у прыватнасьці і ўсёй інспэктурай аховы здароўя ў цэлым; 3) практыкаваць даклады страхкас на нарадах працаўнікоў аховы здароўя па пытаньнях лепшага мэдабслугоўваньня застрахаваных; 4) выклікаць праз інспэктуру аховы здароўя ў страхкасу паасобных лечачых урачоў, якіх парушаюць страхавую палітыку, для зрабленьня ім неабходных тлумачэньняў і папярэджваньняў, спагнаньня за няправільна прадстаўленыя водпускі і ў выпадках упартасьці пазбаўленьня іх права выдачы больнічных аркушаў, аж да прыцягненьня да судовае адказнасьці; 5) удзельнічаць пры падборы ўрачоў у лечустановы, абслугоўваючыя застрахаваных і наогул у выпадку патрэбы карыстацца правам адводу ўрачоў.

г) Прымаючы пад увагу, што ў бюджэце Галоўсацстраху выдаткі па інваліднасьці займаюць другое месца і што паказальнікі інваліднасьці зьяўляюцца найбольш сталымі ў характарыстыцы ўмоў працы дзеля пытаньня тарыфікацыі, нарада лічыць неабходным у далейшай працы

страхорганаў удзяляць больш увагі пытаньням інваліднасьці. Для гэтае мэты неабходна ўзьняць пытаньне аб арганізацыі БУЭ пры страхкасах і праводзіць праверку інвалідаў. (Прадстаўнік НК Аховы Здароўя БССР супярэчыць супроць 2-й часткі пункту).

д) Кантроль павінен быць правільна і рацыянальна выкарыстаны, асабліва пры выбарачным яго характары: 1) асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на кантроль на даму, 2) страхкасы павінны сачыць за акуратнай прысылкай паведамленьняў лечустановамі аб прадстаўленых водпусках, 3) барацьба з водпускамі, прадстаўленымі пасьля п'янства, павінна быць самай рашучай, 4) кантрольны апарат павінен весьці рашучую барацьбу з сымулянтамі, агравантамі і наогул з неабгрунтованымі выдачамі водпускаў. Выпадкі злоснае сымуляцыі павінны асьвятляцца ў друку, 5) пытаньні догляду за хворымі членамі сям'і, аплата за карантын павінны заняць асобнае месца ў рабоце кантрольнага апарату страхкас.

Нарада лічыць адначасна неабходным шырокае уцягненьне рабочага тавáрыскага кантролю для выяўленьня выпадкаў сымуляцыі, невыкананьня рэжыму, прадпісанага лечурачом, і т. п.

е) Даручаныя ўрачы акрстрахкас павінны сыстэматычна вывучаць і абсьледваць найбольш непамысныя прадпрыемствы. Гэта, з аднаго боку, паставіць ў вядомасьць страхкасы аб пагражаючых вытворчасьцях, з другога боку, палегчыць іх штодзеную працу. Даручаныя ўрачы павінны быць праваднікамі палітыкі страхкас у справе аховы здароўя. Нарада лічыць неабходным пэрыядычна склікаць нарады даручаных урачоў.

ж) Сыстэматычнае паглыбленае вывучэньне захварваемасьці, траўматызму і інваліднасьці даручыць Інстытуту па ахове працы пры НКПБ па праграмах, узгодненых з Галоўсацстрахам.

з) Улічваючы важнасьць вядзеньня вычэрпваючага вучоту няшчасных выпадкаў, абавязаць урачэбны кантроль удзяліць больш увагі гэтаму пытаньню як па нагляду за поўнай рэгістрацыяй няшчасных выпадкаў на прадпрыемствах, так і па вывучэньню прычын іх распаўсюджаньня. Рэкамэндаваць касам утварыць сталыя камісіі для гэтае мэты (па прыкладу Гомельскай касы) з прадстаўнікоў страхкасы, Акр. аддзелу працы і пракуратуры.

---

## II. ПЫТАНЬНІ ФІНАНСАВАЕ ПРАЦЫ.

### Аб пераходзе на новыя тэрміны спагнаньня страхавых узносаў.

У выкананьне пастановы СССС ад 31 студзеня 1929 г. № 87 (і інструкцыі да яе) „Аб увядзеньні ў дзейнасьць новых тэрмінаў спагнаньня ўзносаў на сацыяльнае страхаваньне“, Галоўсацстрах прапануе прыняць да няўхільнага выкананьня наступнае:

1) Пераход на новы парадак уплаты страхузносаў павінен быць вытвараны зараз-жа ў поўнай адпаведнасьці з арт. 2 пастановы СССС ад 31 студзеня 1929 г. № 87.

2) Сьпісак страхавацеляў, якім К-там страхкасы прадастаўлена будзе растэрміноўка ўплаты сум, прылічваючыхся з заработнае платы, выплачанай у лютым м-цы—у парадку, прадугледжаным арт. 3 пастановы СССС, ад 31 студзеня 1929 г. № 87,—павінен быць зацьверджан К-там страхкасы (пратакольнай пастановай) і прыслан для ведама ў Галоўсацстрах. Пытаньне аб растэрміноўцы плацяжа павінна быць разгледжана толькі па прадстаўленаму страхавацелем адпаведнаму—аб гэтым—хадайніцтву. У выпадку здавальненьня хадайніцтва страхавацель павінен выдаць К-ту

страхкасы абавязак уплаціць растэрмінаваную суму ўзносаў у прадастаўлены К-там срахкасы для гэтага тэрмін.

3) Прадугледжаная арт. 3 пастановы СССС ад 31 студзеня № 87 растэрміноўка плацяжа ні ў якім разе ня можа быць прадастаўлена страхавацелям, якія знаходзяцца на дзяржаўным альбо мясцовым бюджэце, бо апошнія павінны адначасна з выплатай зарплаты прадстаўляць асыгноўку на пералічэньне з адпаведных крэдытаў у распараджэньне страхкасы прылічваючайся апошняй сумы ўзносаў, чаму паказаны арт. 3 пастановы СССС № 87 ня можа агулам мець сваім аб'ектам дзярж. і мясцбюджэтных страхавацеляў.

4) Парадак уплаты страхузносаў два разы ў месяц Галоўсацстрах не рэкамэндуе ўстанавіць для дробных страхавацеляў з невялікім лікам застрахаваных.

5) На страхавацеляў, для якіх касай устанаўляецца ўплата ўзносаў два разы ў месяц, павінен быць складзен сьпіс з паказаньнем у ім тэрмінаў выплаты зарплаты, устаноўленых кал. умовай, па даных адпаведных прафсаюзных арганізацый. Па гэтаму сьпіску кантрольным апаратам касы павінен вытварацца нагляд за выкананьнем страхавацелем устаноўленых для яго тэрмінаў уплаты страхузносаў. Тэрміны ўплаты ўзносаў павінны быць абавязкова адзначаны таксама па ўсіх асабістых рахунках страхавацеляў.

6) Прадугледжаныя інструкцыяй СССС ад 31 студзеня 1929 г. № 88 новыя формы блянкаў па спагнаньні (заява аб рэгістрацыі, паведамленьне і разрахунковыя ведамасьці) будуць на днях заказаны і потым накіраваны Вам у дастатковай колькасьці, але, у адпаведнасьці з арт. 62 паказанае інструкцыі, нарыхтоўка гэтых новых формаў ні ў якім разе не павінна затрымаць увядзеньне ў дзейнасьць новых тэрмінаў спагнаньня.

7) Аб усіх перашкодах, якія будуць сустракацца ў Вас з пераходам на новыя тэрміны ўплаты страхузносаў з боку буйных страхавацеляў—інфармаваць Галоўсацстрах для прыняцьця адпаведных мер праз вышэйшую інстанцыю па лініі данага страхавацеля.

У заключэньне Галоўсацстрах зварочвае Вашу ўвагу на тую вялікую адказнасьць, якая ляжыць на кожным страхавым органе за прыняцьце ім усіх неабходных мер для найбольш хуткага ажыцьцяўленьня пераходу на новыя тэрміны ўплаты страхузносаў, бо толькі гэты пераход зможа забясьпечыць памыснае выкананьне бюджэту 28-29 г. і бесьперабойнае абслугоўваньне застрахаваных.

## Тлумачэньні па пытаньнях тарыфікацыі.

1. Жыткаўская раённая мытня зьвярнулася да Галоўсацстраху з пытаньнем аб тым, па якому тарыфу яна павінна плаціць страхузносы па зарплаце, што выплачваецца за пагрузачна-разгрузачныя работы над імпартнымі і экспартнымі грузамі.

Галоўсацстрах растлумачвае, што з прычыны таго, што мытня не зьяўляецца транспартным прадпрыемствам, то страхавыя ўзносы за пагрузачна-разгрузачныя работы яна павінна плаціць у наступных разьмерах: а) па зарплаце, што выплачваецца за пагрузку-выгрузку грузаў, за кошт уласьнікаў гэтых грузаў—17,2% і б) па зарплаце, што выплачваецца за пагрузку-выгрузку, за кошт сродкаў мытні—у разьмеры 10,75% (№ 281 ад 28/II—29 г.).

2. Па пытаньні, закранутым адным з дарожна-будаўнічых вучасткаў адносна кола асоб, на зарплату якіх трэба налічваць 0,75% на хуткую падрыхтоўку будаўнікоў, Галоўсацстрах растлумачвае: спагнаньне 0,75%

надбаўкі на хуткую падрыхтоўку будаўнікоў павінна ўтварацца з заработнай платы таго кантынгенту рабочых транспарту, занятага на новым будаўніцтве, капітальным альбо бягучым рамонце, які ахоплен кал. умовай з саюзам будаўнікоў. З заработнае платы рабочых, выконваючых будаўніча-рамонтныя работы і ахопленых кал. умовай, заключанай з саюзам чыгунічнікаў, адлічэньняў 0,75% на падрыхтоўку кваліфікаванай рабсілы рабіць не належыць.

3. Віцебская акрстрахкаса запытала, ці можна распаўсюдзіць ільготны тарыф узносаў на асэнізацыйны абоз пры спраўдоме. На падставе арт. 2 пастановы ЦВК і СНК СССР за 25/V—27 г. („Пытаньні страхаваньня" № 35), Галоўсацстрах растлумачвае, што дзеяньне арт. II пастановы ЦВК і СНК СССР ад 25/II—27 г. ня можа распаўсюджвацца на асэнізацыйны абоз пры спраўдоме таму, што гэты артыкул прадугледжвае ільготны тарыф узносаў не для ўсіх дапаможных прадпрыемстваў месцаў зьняволеньня, а толькі дзеля тых, якія носяць вытворчы характар. Таму страхавыя ўзносы за асэнізацыйны абоз належыць спаганяць па нармальнаму тарыфу- адпаведна клясе шкоднасьці і небясьпекі.

4. Беларускае таварыства—„Аўтадор" зьвярнулася з хадайніцтвам у ЦУСТРАХ аб адчясеньні арганізацыі „Аўтадор" да ільготнага тарыфу. Пратакольнай пастановай Усесаюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня ад 31 студзеня 1929 г. (пратакол № 3) паказанае хадайніцтва адхілена. Такім чынам, усе арганізацыі „Аўтадор", як існуючыя, так і зноў арганізаваныя, павінны плаціць страхавыя ўзносы па нармальнаму тарыфу.

5. З паступіўшых у Галоўсацстрах матар'ялаў відаць, што шэраг кас у той ці іншай ступені няправільна тарыфікуюць перайшоўшыя да гаспадарчых органаў працкалектывы.

У сувязі з вышэйпаказаным Галоўсацстрах прапануе ў пытаньнях тарыфікацыі перададзеных гаспадарчым органам працкалектываў кіравацца наступным тлумачэньнем, абаснаваным на пастанове ЦВК і СНК СССР „аб сацыяльным страхаваньні асоб, працуючых у арганізаваных Камітэтамі біржы працы вытворчых прадпрыемствах і вытворчых калектывах, перададзеных у веданьне гаспадарчых органаў („Пытаньні страхаваньня" № 45—46 за 1927 г.).

Вытворчыя калектывы, перайшоўшыя да гаспадарчых органаў, плоцяць страхавыя ўзносы ў наступным парадку:

а) з асоб, за якіх да дню перадачы вытворчага працкалектыву (не гандлёвага альбо інш.) апошні аслабанён быў ад уплаты страхавых узносаў на падставе арт. 4 пастановы ЦВК і СНК СССР ад 8/I—26 г. („Пытаньні страхаваньня" № 5 за 1926 г.), страхавыя ўзносы зусім ня плоцяцца на працягу 6 м-цаў пасьля пераходу, а па выхадзе гэтых 6 м-цаў—узносы плоцяцца за гэтых асоб па нармальнаму тарыфу, адпаведнае клясе шкоднасьці і небясьпекі;

б) з асоб, за якіх да перадачы працкалектыву, страхавыя ўзносы плаціліся па ільготнаму тарыфу 10%,—на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР ад 21/V—26 г. („Изв. НКТ СССР" № 24/25 за 1926 г.) страхавыя ўзносы плоцяцца пасьля пераходу: 1) на працягу 6 месяцаў— па ільготнаму тарыфу і 2) па выхадзе 6 м-цаў—па нармальнаму тарыфу адпаведна клясе шкоднасьці і небясьпекі;

в) з тых асоб, якія прыняты на работу пасьля перадачы працкалектыва гаспадарчаму органу, страхавыя ўзносы плоцяцца з першага дня пераходу—па нармальнаму тарыфу;

г) у астатніх момантах, тут не адзначаных, строга кіравацца памянёнай вышэй пастановай ЦВК і СНК СССР за 7/IX—27 г. („Пытаньні страхаваньня" № 45—46 за 1927 г.);

д) у адносінах тэрміну налічэньня ўзносаў па новай стаўцы тарыфу ў выпадках, калі гэткая зьменена будзе на падставе данага тлумачэньня,— кіравацца арт. 17 інструкцыі СССС „Аб парадку спагнаньня ўзносаў на сацстрахаваньне“ ад 31/I—29 г. № 88 („Труд“ № 46 за 24/II—29 г.).

6. Маецца шэраг выпадкаў, калі страхавыя касы, зварочваючыся ў Галоўсацстрах за тлумачэньнем пытаньня ў галіне тарыфікацыі, кола застрахаваных і аб'ёму страхаваньня, даюць такую няясную фармуліроўку сутнасьці свайго пытаньня, што няма ніякай магчымасьці вырашыць яго і даць канчатковы адказ без патрабаваньня дадатковых ведаў ад страхкасы. Маючы на ўвазе складанасьць пасылаемых у Галоўсацстрах запытаньняў, немагчымасьць правільнага разьвязаньня іх бяз вычэрпваючай іх фармуліроўкі і неабходнасьці ўнікаць дадатковых запытаньняў з боку Галоўсацстраху, страхкасам неабходна ў далейшым усе запытаньні, якія пасылаюцца ў Галоўсацстрах, выкладаць так, каб усе тыя моманты, якія па думцы касы могуць мець большае альбо меншае значэньне для правільнага разьвязаньня пытаньня, атрымалі-б поўнае адбіцьцё ў фармуліроўцы пасылаемага запытаньня.

---

## III. ПЫТАНЬНІ АПЭРАЦЫЙНАЕ ПРАЦЫ.

### Аб правядзеньні падрыхтовачнае работы па абхопу батрацтва і пастушаства сацыяльным страхаваньнем.

Пасьпяховае правядзеньне сацыяльнага страхаваньня батрацтва і пастушаства павінна значна палепшыць як матар'яльнае, так і прававое становішча батрацкіх мас і тым самым садзейнічаць арганізацыі батрацтва і замацаваньню пралетарскіх пазыцый у вёсцы, а ва ўмовах завайстраючайся клясавае барацьбы ў вёсцы гэта мае асабліва важнае значэньне.

Выходзячы з гэтага, усе акрстрахкасы, райупаўнаважаныя па сацстрахаваньні, кожная арганізацыя прафсаюзу с.-г. і лясн. рабочых абавязаны справе разгортваньня страхаваньня батрацтва ўдзяляць выключную ўвагу з тым, каб у гэтым яшчэ годзе абхапіць страхаваньнем ня менш 26.000 рабочых кулацкіх гаспадарак і грамадзкіх пастухоў, а таксама магчыма больш пашырыць дабраахвотнае страхаваньне.

Работа па страхаваньні гэтае масы батрацтва можа лічыцца пясьпяховай толькі пры тэй умове, што кожны застрахаваны батрак будзе фактычна абслужаны страхавой і лекавай дапамогай; з гэтага павінна зыходзіць, абавязкова дабівацца і ажыцьцяўляць кожная страхавая і саюзная арганізацыя.

Улічваючы паказанае, Галоўсацстрах прапануе зараз-жа шырока разгарнуць работу па практычнаму правядзеньню ў жыцьцё рашэньняў Нарады старшынь Акр. страхкас і дырэктыў Галоўсацстраху аб страхаваньні батрацтва, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на наступнае:

1) Прыняць меры да ўзмацненьня складу Райупаўнаважаных па сацстрахаваньню за лік лепшых работнікаў з актыву с.-гас. і лясн. рабочых.

2) Усебакова прыцягваць батрацтва і пастушаства да вырашэньня ўсіх практычных пытаньняў па іх абслугоўваньні і па вышуканьні найлепшых форм — спосабаў правядзеньня законаў аб сацстрахаваньні ў вёсцы.

3) Усю падрыхтоўчую работу па страхаваньні батрацтва будаваць і правесьці гэтак, каб набліжаючаяся кампанія заключэньня працоўных дагавораў з наймальнікамі сялянамі была цалкам скарыстана для прыцягненьня іх да абавязковага і дабраахвотнага страхаваньня занятых

у іх батракоў і пастухоў і для азнаямленьня самаго батрака з тым, якую, якім парадкам і дзе ён мае права атрымаць дапамогу як застрахаваны.

4) Усе перашкоды ў рабоце па сацстрахаваньні батрацтва сваячасна шырока асьвятляць перад адпаведнымі партыйнымі, савецкімі і саюзнымі арганізацыямі, найстойна дабіваючыся ад іх дапамогі ў рабоце.

**Растлумачэньні па пытаньням выдачы страхавых дапамог і пэнсіі.**

У сувязі з паступіўшымі з месц запытаньнямі Галоўсацстрах растлумачвае:

1) Згодна арт. 23 правіл аб прызначэньні і выдачы дапамог па беспрацоўю ад 14-XII—1927 г. за № 406 дапамога за кожны паасобны месяц можа быць выдадзена толькі ў тым выпадку, калі лік выдач за папярэднія 11 м-цаў не перавышае 8-мі, г.-зн., што ў працягу аднаго году можа быць толькі 9 выдач, незалежна ад таго, што яны датычацца нават да двух выпадкаў беспрацоўя. *Напрыклад*, беспрацоўны атрымаў дапамогу 8 разоў з 15-I—28 г. па 15-IX—28 г. З 15-IX па 1-XI ён працаваў і, згодна п. 24, для яго пачынаецца новы выпадак беспрацоўя, але да 15-I—29 г. ён можа атрымаць толькі яшчэ адзін раз дапамогу, бо 8 разоў ужо на працягу гэтага году ім атрымана і далейшыя палучкі за гэты-ж пэрыяд беспрацоўя павінны пачацца толькі з 15-I—29 г.

2) Згодна п. 4 правіл аб забясьпечаньні па інваліднасьці і па выпадках страты кармільца ад 4-VI—28 г. за № 396 усе тыя, якім было ўперад адмоўлена ў пэнсіі, але якія на падставе памянёных правіл набылі права на гэткую, могуць зьвярнуцца ў страхкасу за прызначэньнем пэнсіі, калі ня выйшаў тэрмін звароту за ёй, устаноўлены арт. арт. 26, 74 і 75.

З прычыны таго, што некаторымі страхкасамі дапушчаюцца памылкі па дапасаваньні гэтага артыкулу, Галоўсацстрах зварочвае Вашу ўвагу на тое, што ў той самы час, як арт. 26 і 74 абмяжоўваюць тэрмін звароту за пэнсіяй двума гадамі,—арт. 75 не абмяжоўвае звароту за пэнсіяй ніякім тэрмінам, г.-зн., што ўсім не дасягнуўшым 16-гадовага ўзросту пэнсія павінна быць прызначана незалежна ад часу страты кармільца і звароту іх у страхорганы.

**Аб тэрміне, з якога прызначаецца пэнсія.**

У зьвязку з маючыміся запытаньнямі растлумачваем, што калі прадстаўляюцца дакумэнты аб праве на пэнсію пасьля 6-месячнага тэрміну з дню падачы заявы, пэнсія павінна прызначацца з дня прадстаўленьня дакумэнтаў (дзень высьвятленьня трудстажу зьяўляецца днём прадстаўленьня дакумэнтаў), а не з дня падачы заявы (артыкул 102 Правіл СССС № 396).

**Аб вылічэньні стажу працы асоб сэзонных прафэсій пры прызначэньні пэнсіі па інваліднасьці.**

Згодна растлумачэньню ЦУСТРАХУ (220/172/51 ад 7-II—1929 г.) асобам сэзонных прафэсій, праходзячым па поўнаму страхаваньню, пры прызначэньні пэнсіі па інваліднасьці належыць працоўны стаж вылічваць шляхам складаньня фактычна прапрацаванага часу, а ня лічыць сэзон працы за поўны год працы. Тлумачэньне гэта азначае, што калі сэзоньнік працаваў, напрыклад, па 6 м-цаў на працягу кожнага году і яму 38 год, дык ён мае права на пэнсію толькі тады, калі прапрацаваў 60 месяцаў, альбо 10 каляндарных год.

**Аб страхаваньні выбарчых работнікаў сялянскіх камітэтаў узаемадапамогі.**

СССС на пасяджэньні ад 31 студзеня г. г. пастаноўлена: хадайнічаньне ЦК Сялянскіх Камітэтаў, К-таў Узаемадапамогі аб выключэньні з кола грамадзян, падлягаючых сацстрахаваньню выбарчых работнікаў сялянскіх К-таў Узаемадапамогі, знаходзячыхся на ўтрыманьні таварыства,—адхіліць.

**Аб высьвятленьні пэўных вестак аб прыбытках інвалідаў перш чым вырашаць справы аб зьняцьці з пэнсіі.**

У практыцы работы страхкас ёсьць выпадкі, калі інваліды зьнімаюцца з пэнсіі з тэй прычыны, што яны маюць заробак, які ня можа быць падлічаны. У такім разе страхкасы часта пастанаўляюць, напрыклад, так: „пэнсію ня выплачваць уперад да канчатковага астаўленьня работы“.

Галоўсацстрах паведамляе, што ў выпадку, калі інвалід мае які-небудзь сталы прыбытак (п. „в“ арт. 92 „Правілаў“ СССС за 4-VII—28 г.— „Изв. НКТ“ 1928 г. № 28-29), страхкасам належыць прыняць меры, каб атрымаць ад фінансавых органаў пэўныя весткі аб гэтых прыбытках і па атрыманьні гэтых вестак вырашаць справы.

---

**Пытаньне** (Аршанская страхкаса). Ці належыць кіравацца пастановай ЦВК і СНК СССР ад 31-Х—1928 г. „Аб зьмене палажэньня аб забясьпечаньні па выпадку інваліднасьці і па выпадку сьмерці кармільца“, у прыватнасьці аб забясьпечаньні дзяцей пэнсіянэраў, якія вучацца, да 18 год.

Адказ. Пастанова ЦВК і СНК СССР ад 31-Х—28 г. павінна праводзіцца ў жыцьцё з дня атрыманьня на мясцох нумару „Известий ЦИК“, у якім надрукавана гэтая пастанова.

**Пытаньне.** Ці ўжываецца арт. 51 „а“ „Правіл“ СССС ад 4 ліпеня 1928 г. ў адносінах да тых інвалідаў, якія жывуць у гарадох і абкладаюцца адзіным сельгаспадаткам.

Адказ: Да інвалідаў, якія жывуць у гарадох, ужываецца арт. 51 „б“ і арт. 52.

Арт. 51 „а“ ўжываецца толькі да інвалідаў, якія жывуць у сельскіх мясцовасьцях.

**Пытаньне.** Як ужываць арт. 51 „Правіл“ у сувязі з выданьнем новага закону аб сельгаспадатках (Изв. ЦИК СССР и ЦИК“ от 21-II—29 г.), згодна арт. 42 якога разьмер не абкладаемага мінімуму зьменен.

Адказ. У зводцы правіл па інваліднасьці ніякага лічбавага мінімуму не ўстаноўлена.

З зацьвярджэньнем ЦВК і СНК СССР новага закону аб с.-г. падатку, Вам неабходна кіравацца пры вызначэньні прыбытку ад сельскай гаспадаркі ў будучым акладным годзе тымі данымі, якія будуць паказаны ў акладным лісьце, які будзе выдан НКФ, і тым мінімумам не абкладаемага прыбытку, які ўстаноўлен новым законам.

---

**Агалашаючы ніжэй пастановы СССС пры НКП СССР, Галоўсацстрах прапануе ўсім акр. страхкасам ужыць неабходныя захады да няўхільнага выкананьня гэтых пастаноў.**

**Пастанова СССС пры НКП СССР ад 21-II—1929 г. № 100 „Пра гранічны тэрмін забясьпечаньня па беспрацоўю ў 1929 г. кваліфікаваных рабочых паліграфічнай прамысловасьці".**

У віду настойнага характару беспрацоўя сярод рабочых паліграфічнай прамысловасьці, у вынятак з арт. 23, зацьверджаных СССС пры НКП СССР 14-XII—1927 г. за № 406 „Правіл аб прызначэньні і выдачы дапамогі па беспрацоўю ў парадку сацстрахаваньня" („Изв. НКТ СССР" 1928 г. № 1—2), Саюзны Савет Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР пастанавіў:

1. Часова да 1-I—1930 г. выдачу дапамог па беспрацоўю рабочым паліграфічнай прамысловасьці, аднесеным да 1-й катэгорыі беспрацоўных, спыніць канчаткова ў тым выпадку, калі беспрацоўны атрымаў на працягу аднаго пэрыяду беспрацоўя ў агульнай складанасьці 36 месячных дапамог.

2. Гэтую пастанову ўвесьці ў дзейнасьць з 1-га студзеня 1929 г.

Паказаным у арт. 1-м беспрацоўным, якім выдача дапамог была спынена ў 1928 г. з прычыны атрыманьня імі 27 месячных дапамог, альбо з 1-га студзеня 1929 г., з прычыны зыходу тэрміну дзейнасьці пастановы СССС пры НКП СССР ад 5 красавіка 1928 г. № 217 („Изв. НКТ СССР" 1928 г. № 18)—выдача дапамог аднаўляецца без падачы заявы з 1-I—1929 г.

Пры гэтым дапамога па беспрацоўі за кожны даны месяц належыць да выдачы толькі ў тым выпадку, калі агульны лік месячных выдач у працягу астатняга году, уключаючы месяц, за які павінна быць выплачана дапамога, не правышае дзевяці.

3. З увядзеньнем у дзейнасьць гэтае пастановы лічыць згубіўшай моц пастанову СССС пры НКП СССР ад 5 красавіка 1928 г. № 217 „Аб гранічным тэрміну забясьпечаньня па беспрацоўю ў 1928 г. кваліфікаваных рабочых паліграфічнай прамысловасьці" (Изв. НКТ СССР 1928 г. № 18).

Старшыня СССС *Немчэнка*. Адказны сакратар *Пятроў*.

**Пастанова СССР пры НКП СССР за 21-III—1929 г. аб мерапрыемствах па скарачэньні выдаткаў па сацстрахаваньні.**

1. Прыняць наступныя мерапрыемствы па скарачэньні выдаткаў па сац. страхаваньні:

а) Жонкам застрахаваных, жыхарствуючым у сельскіх мясцовасьцях і ўваходзячым у склад сялянскага двара, абкладаемага сельска-гаспадарчым падаткам, разьмер дапамогі на кармленьне дзіцяці скараціць на 50 проц. супроць разьмеру гэтае дапамогі у горадзе. Разьмер-жа дапамогі на прадметы догляду і на пахаваньне для гэтых груп зьніжаецца да нормы, устаноўленай для батрачак, г. зн. да 10 р. (прадстаўнікі УЦСПС заявілі асобную думку, настойваючы на выдачы гэтым групам $^2/_3$ усіх дапамог па дадатковых відах).

б) Скараціць на $^1/_3$ разьмер дадатковых дапамог, якія выдаюцца застрахаваным і іх сем'ям, жыхарствуючым у сельскіх мясцовасьцях і якія не ўваходзяць у склад абкладаемага сельска-гаспадарчым падаткам двара супроць разьмеру адпаведнае дапамогі, выдаваемай у горадзе.

Пры гэтым паказаць, што гэта скарачэньне не павінна распаўсюджвацца на прамысловыя раёны, рабочыя прыгарады і рабочыя пасёлкі, (прадстаўнікі УЦСПС заявілі асобную думку, лічачы немагчымым распаўсюджыць гэта мерапрыемства на сялянскую інтэлігенцыю: настаўнікаў, урачоў і др.).

в) Выплачваць дапамогу на кармленьне дзіцяці ня ўперад за адзін месяц, а за два зышоўшых месяцы.

г) Дадатковыя дапамогі застрахаваным з ліку хатніх працаўніц і кватэрнікаў, а таксама з ліку асоб, занятых на часовых і сэзонных работах, якія праходзяць па частковаму страхаваньню, выдаюцца пры ўмове наяўнасьці у іх 9-месячнага працоўнага стажу за апошнія 2 гады, у тым ліку 4-месячнага стажа непасрэдна перад наступленьнем страхавога выпадку. Членам сем'яў гэтых груп застрахаваных прызначаць дадатковыя дапамогі ў тым выпадку, калі ў застрахаванага маецца 9-месячны працстаж у працягу апошніх 2-х год.

Пры гэтым паказаць, што абмежаваньне не дапасоўваецца да рабочых і работніц, маючых 2-гадовы працоўны стаж і толькі часова занятых на работах, якія праходзяць па частковаму страхаваньню.

Адначасна з гэтым даручыць Цустраху распрацаваць закон аб сацыяльным страхаваньні кватэрнікаў.

д) Ня выплачваць ў сельскіх мясцовасьцях дапамогі па беспрацоўю асобам, якія не зьяўляюцца членамі саюзу, альбо ўваходзяць у склад сялянскага двара, абкладаемага сел.-гас. падаткам.

е) Падоўжыць патрабуемы пры прызначэньні дапамогі па беспрацоўю стаж работы па найму для некваліфікаваных беспрацоўных членаў саюзу з 6 месяцаў да аднаго году. (Прадстаўнікі УЦСПС заявілі асобную думку, настойваючы на тым, каб пакінуць існуючы тэрмін, г. зн. шэсьць месяцаў).

ж) Устанавіць патрабаваньне 6-месячнага стажу работы па найму для беспрацоўных з ліку поўкваліфікаваных рабочых—членаў прафэсыйных саюзаў. Для беспрацоўных кваліфікаваных прафэсій, не зьяўляючыхся членамі саюзу, устанавіць патрабаваньне стажу работы па найму ў адзін год (прадстаўнікі УЦСПС заявілі асобную думку, настойваючы на тым, каб пакінуць існуючы парадак, г. зн., каб ад гэтых груп не патрабаваць стажу работы па найму пры прызначэньні дапамогі па беспрацоўю).

з) Устанавіць для інвалідаў 1-й групы, згубіўшых працаздольнасьць ад працоўнага калецтва і прафзахворваньня максымум пэнсіі у 225 руб. з адпаведным паніжэньнем мамсымуму для інвалідаў па калецтву ніжэйшых груп.

Адначасна з гэтым даручыць Цустраху распрацаваць пытаньне аб устанаўленьні вучоту заробку інвалідаў па калецтву і інвалідаў ад прафзахворваньняў.

і) Прызнаць, што, як правіла, камісіі страхкас павінны устанаўляць працоўны стаж інвалідаў за час з 1923 г. толькі на падставе дакумантаў. Сьведчыя паказаньні дапушчаюцца толькі ў выключных выпадках.

к) Не выплачваць дапамогі за першыя тры дні хваробы, выкліканай п'янствам, незалежна ад працяжнасьці хваробы.

л) Дапамогу па часовай непрацаздольнасьці застрахаваным, накіроўваемым на курортна-санаторнае лячэньне, выдаваць у два тэрміны: $^2/_3$ пры адпраўцы на лячэньне і $^1/_3$ пасьля звароту.

Адхіліць прапанову т. *Эмдзіна* аб зьніжэньні разьмеру дапамог на $^1/_3$ застрахаваным, накіроўваемым за кошт страхкас у санаторыі і на курорты.

м) У выпадку пераплат па віне застрахаваных дапамог і пэнсій прадставіць касам права ўтвараць утрыманьні пры наступных выплатах, але ня вышэй 10 проц. з сумы атрымоўваемай дапамогі, пэнсіі і др.

н) Абавязаць страхавыя органы прымаць у адносіне да ўрачоў, прадстаўляючых без падстаў водпускі па часовай непрацаздольнасьці цьвёрдыя меры аж да пазбаўленьня права даваць водпускі і прыцягненьня да дысцыплінарнае адказнасьці, забясьпечыўшы пры гэтым садзейнічаньне страхорганам з боку прафсаюзаў, РСІ і др. Абавязаць таксама страхкасы весьці жорсткую барацьбу з сымуляцыяй застрахаваных.

о) Паставіць перад урадавымі органамі пытаньне аб перадачы ў веданьне страхавых кас бюро ўрачэбнай экспэртызы.

п) унесьці адпаведныя зьмены ў правілы забясьпечаньня ў парадку сацыяльнага страхаваньня, а па п.п. „г“ „к“, „м“ і „о“ ўзбудзіць адпаведнае хадайніцтва перад законадаўчымі органамі СССР.

Прыняць у прынцыпе прапанову т. *Эмдзіна*, каб не выдаваць дапамог на прадметы догляду і на кармленьне жонкам застрахаваных, калі яны займаюцца вольнымі прафэсіямі, гандлем альбо эксплёатацыяй чужой працы і др.

Даручыць Цустраху прыняць пад увагу гэту прапанову пры перапрацоўцы правіл аб дадатковых дапамогах.

Адхіліць наступныя прапановы т. *Эмдзіна*.

1) Дапамогу на пасаг і кармленьне не выдаваць тым асобам, у аднаго з супругаў якіх маецца заробак звыш 180 руб.

2) Устанавіць патрабаваньне стажу работы па найму пры назначэньні дапамогі па цяжарнасьці для застрахаваных жанчын.

Пастанову гэту правесьці ў дзейнасьць з 1 красавіка 1929 г.

Старшыня *Котаў*. Сакратар *Пятроў*.

---

# IV. ПЫТАНЬНІ МЭДЫЧНА-ПРАФІЛЯКТЫЧНАЕ ПРАЦЫ.

## Аб накіроўваньні хворых у Маскву на лячэньне.

Сталае Прадстаўніцтва БССР пры Ўрадзе Саюзу ССР паведамляе, што за апошні час учасьціліся выпадкі, калі з акруг БССР урачэбнакантрольныя камісіі накіроўваюць хворых таварышоў у Маскву на лячэньне. Гэтыя таварышы, прыехаўшы ў Маскву, знаходзяцца ў вельмі дрэнным матар'яльным становішчы, бо ня маюць пры сабе належных сродкаў на аплату кватэр і пражыцьцё. Акрамя таго, з прычыны загрузкі лячэбных установаў Масквы гэтыя таварышы ня могуць атрымаць належнага лячэньня і нават бываюць такія выпадкі, калі таварышоў накіроўваюць на лячэньне ў Маскву ў той час, як па гэтых хваробах ёсьць досыць абсталяваныя лячэбніцы ў самой БССР. Прадстаўніцтва лічыць такое зьявішча зусім ненармальным і просіць даць мясцом належныя паказаньні, каб не накіроўвалі людзей у Маскву, не папярэдзіўшы аб гэтым і не дагаварыўшыся з належнымі ўстановамі аховы здароўя ў Маскве. Ёсьць значная колькасьць фактаў, калі Прадстаўніцтву прышлося адправіць гэтых хворых у БССР за свае сродкі. У далейшым Прадстаўніцтва, за адсутнасьцю сродкаў, дапамагаць ім ня зможа.

Паведамляючы аб гэтым, Галоўсацстрах прапануе страхкасам пры накіраваньні хворых у Маскву на лячэньне ўсё вышэйпаказанае мець на ўвазе.

## Аб правядзеньні курортна-санаторнай кампаніі на вясеньня-летні пэрыяд.

Папярэднія вынікі праведзенай курортна-санаторнай кампаніі мінулага году выявілі некаторыя палепшаньні ў пастаноўцы абслугоўваньня адпачываючых у дамох адпачынку (палепшаньне харчаваньня, культабслугоўваньня, прывіцьцё санітарных навыкаў і г. д.) і некаторае пашырэньне санаторных ложкаў для сухотных хворых.

Але-ж разам з гэтым выявіліся значныя недахопы, галоўнейшымі з якіх зьяўляюцца:

а) значны перавыдатак на ўтрыманьне адпачываючых у дамох адпачынку ў параўнаньні з асыгнаваньнямі на гэту мэту;

б) шэраг выпадкаў няпоўнай загрузкі ложкаў, дзякуючы несваячаснаму адбору і накіраваньню адпачываючых;

в) пасылка на курортна-санаторнае лячэньне супроць паказаных, прабываньне на курорце якіх ня толькі не дае карысьці, але нават шкодзіць.

Паведамляючы ніжэй разьмеркаваньне месцаў у дамы адпачынку, санаторыі і курорты на вясеньня-летні сэзон 1929 г., Галоўсацстрах прапануе кіравацца наступным:

1. Разьмеркаваньне месцаў:

| Назва акругі | Месцы ў дамы адпачынку | Месцы ў санат „Х-годзьдзя БССР“ | Месца на курорты |
|---|---|---|---|
| Менск . . | 210 (з іх 40 у замен зімніх) 10 дзіцячых | 24 | 133 (з іх пралетстуду—6) |
| Гомель . . | 244 (з іх 34 у замен зімніх) 10 дзіцячых | 23 | 112 ( „ „ 2) |
| Віцебск . . | 125 і 5 дзіцячых | 23 | 112 ( „ „ 4) |
| Магілеў . . | 65 | 11 | 49 ( „ „ 1) |
| Полацк . . | 25 | 6 | 25 ( „ „ 1) |
| Барысаў . . | 65 (з іх у замен зімніх 15) | 7 | 48 |
| Бабруйск . | 75 | 14 | 68 |
| Орша . . | 40 | 9 | 33 |
| Мазыр . . | 50 | 6 | 26 |

2. Ні ў якім разе не дапушчаць перавыдатку на ўтрыманьне адпачываючага ў параўнаньні з сумай адпушчанай па каштарысу, калькуляцыя каштоўнасьці месцаў здаваемых у арэнду павінна ахапіць усе выдаткі, у тым ліку і выдаткі па амортызацыі маемасьці і інвэнтару.

3. Сачыць за тым, каб процант служачых, накіроўваемых у дамы адпачынку, не перавышаў 20.

4. Палепшыць харчаваньне, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на рознароднасьць харчоў, палепшыць культабслугоўваньне, сумесна з АПБ прыняць меры да ўзмацненьня адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу ў дамох адпачынку.

5. Страхкасы павінны праз прафарганізацыі прыняць усе меры да поўнага скарыстаньня колькасьці месцаў у дамох адпачынку, не дапушчаючы прагулу ложкаў.

6. На курорты і ў санаторыі патрэбна накіроўваць выключна тых хворых, для якіх гэткія віды лячэньня немагчыма замяніць іншымі і для якіх яны зьяўляюцца мэтазгоднымі. Ні ў якім выпадку не накіроўваць супроцьпаказаных, таксама і такіх, якім санаторна-куротнае лячэньне хоць і ня шкодзіць, але з посьпехам можа быць заменена іншымі мэтадамі лячэньня на месцы.

7. Тэрмін прабываньня хворых у санаторыі імя „Х-годзьдзя БССР" устанаўляецца ў 6 тыдняў з прадастаўленьнем права санаторнае камісіі разам з Акр. УКК віцебскай акрстрахкасы ў неабходных выпадках працягваць тэрмін прабываньня хворага да 2-х месяцаў.

8. Курмесцы пралетстуду будуць за лік адпаведных акруг выдавацца ў цэнтралізаваным парадку ЦБ пралетстуду.

### B. Аб накіраваньні на курорты.

Галоўсацстрах паведамляе, што сьпісак супроцьпаказаньняў і паказаньняў да лячэньня ў санаторыях Цустраха на курортах, устаноўлены на 1928 год, зьменен ня будзе і ім належыць кіравацца, пры накіраваньні хворых у санаторыі Цустраху ў бягучым годзе.

Тэрміны лячэньня ў санаторыях пакінуты таксама бяз зьмен, за выключэньнем Санаторый у Пяцігорску, дзе ўстанаўліваецца замест 6 тыдняў пяцітыднёвае лячэньне хворых у санаторыях Цустраха.

У віду наглядаўшыхся выпадкаў накіраваньня ў санаторыі Цустраха хворых не ў адпаведнасьці з устаноўленым сьпіскам мэдпаказаньняў для санаторый Цустраха на курортах, прапануецца растлумачыць адборачна-курортным камісіям, што санаторыі Цустраха прадназначаны для хворых з абмежаваным кругам хвароб і што паказаны сьпісак зьмяшчае толькі частку паказаньняў, устаноўленых НКАховы Здароўя для таго ці іншага курорта. Хворыя, накіраваныя не ў адпаведнасьці з паказаным сьпіскам, у далейшым будуць адсылацца назад і вінаватыя ў няправільнай пасылцы хворага прыцягвацца да адказнасьці.

Зьвяртаецца ўвага, што санаторна-курортны адбор, па справаздачным даным упаўнаважаных і дырэктароў санаторый Цустраха, мала палепшыўся ў параўнаньні з мінулым годам, асабліва ў адносіне непаказаных хворых.

Колькасьць непаказаных хворых, г. зн. ня маючых патрэбы ў курортным лячэньні і ў большасьці выпадкаў маючых патрэбу толькі ў палепшаных санаторна-гігіенічных умовах, дасягае 40 проц. Галоўным чынам, паказанае тычыцца санаторый Паўднёвага берагу Крыма, куды накіроўваюцца ў значнай колькасьці хворыя з формамі кампэнсаваных сухот лёгкіх, так называемыя практычна здаровыя.

Між тым хворыя сухотай залоз, плеўры і брушыны, згодна ўстаноўленых мэдычных паказаньняў на летні сэзон страхавымі касамі ў летні час у санаторыі Паўднёвага берагу Крыма амаль не пасылаліся.

Статычныя курортныя карты для хворых у санаторыях Цустраху адмяняюцца, узамен іх курортна-адборачныя камісіі павінны выдаваць даведкі з паказаньнем дыягнозу хваробы і з паказаньнем, на які курорт хворы можа быць накіраваны.

З прычыны адмены статкарт, Галоўсацстрах прапануе да няўхільнага кіраваньня наступнае:

Дыягноз хваробы з подпісамі і пячаткай ставіцца на санбілеце адборачнай камісіяй.

Усе хворыя, накіроўваемыя на курорты і ў санаторыі Цустраху, павінны мець наступныя веды:

1) аб атрыманьні хворым водпуску па часовай непрацаздольнасьці і яго тэрмін;

2) аб суме выдадзенай хвораму дапамогі па часовай непрацаздольнасьці і за які час.

3) аб выдадзеных хвораму праяздных дакумантах і

4) аб папярэджаньні хворага аб неабходнасьці ўплаты курортнага збору (курортны збор спаганяецца згодна пастановы ЦВК і СНК РСФСР за 6-X—26 г. у мэтах узмацненьня сродкаў на дабрабыт курортаў). Курортны збор для застрахаваных і членаў іх сем'яў устаноўлены ў разьмеры 2 р. на сэзон для асоб, заробак якіх перавышае 100 руб. Асобы, заробак якіх не перавышае 100 р., ад куротнага збору аслабаняюцца (таксама і дзеці, не дасягнуўшыя 16-летняга ўзросту).

Адказнасьць за ўсе непаразуменьні, якія могуць узьнікнуць пры адсутнасьці ўсіх паказаных ведаў, будзе ўскладзена на касу, якая накіравала хворага на курорт.

### Аб забясьпечаньні накіроўваемых у санаторыі Цустраху праяздными пасьведчаньнямі.

18-I—29 г. за № 187 было накіравана ўсім акрстрахкасам паказаньне аб выдачы едучым на курорты і ў санаторыі Цустраху праяздных пасьведчаньняў у абодва канцы.

Ня гледзячы на гэта, *Цустрах* нас паведаміў, што некаторыя касы (асабліва *Рагачоўская*, *Гомельская*, *Магілеўская*, *Аршанская і Віцебская)* забясьпечваюць хворых праяздными пасьведчаньнямі толькі ў адзін канец.

Галоўсацстрах прапануе ўсім акрстрахкасам дакладна выконваць вышэйпаказанае і ў далейшым абавязкова забясьпечваць хворых, накіроўваемых на лячэньне, праяздными пасьведчаньнямі ў абодва канцы.

---

## V. ХРОНІКА.

### Аб дачы супрацоўнікамі паштовых прадпрыемстваў розных даведак па запытаньнях насельніцтва.

Згодна пастановы СНК БССР за 16-I—29 г. усе ўстановы павінны даваць супрацоўнікам паштовых і паштова-тэлеграфных прадпрыемстваў, агентам і вясковым лістаносцам даведкі для адказу на запытаньні насельніцтва.

Для ажыцьцяўленьня гэтае пастановы к-ты страхкас павінны вылучыць адпаведных асоб для ўстанаўленьня сыстэматычнае сувязі з супрацоўнікамі паштовых прадпрыемстваў.

Райупаўнаважным прапануецца шырока абвясьціць застрахаваных аб магчымасьці атрыманьня імі даведак па пытаньнях сацстрахаваньня, якія іх цікавяць, а таксама перадачы спраў і розных заяў праз супрацоўнікаў паштовых прадпрыемстваў.

### Аб мерапрыемствах па скарачэньні выдаткаў паперы.

У пастанове калегіі НК РСІ СССР „меры па скарачэньні выдатку паперы" маецца цэлы шэраг практычных паказаньняў аб тым. як скараціць выдатак колькасьці ўсіх відаў і гатунку канцылярскае паперы з тым, каб у 1928-29. г. скараціўся выдатак паперы за лік рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў на 30 проц. па параўнаньні з 1927-28 г.

Згодна п. 8 гэтай-жа пастановы, кожнае прадпрыемства павінна неадкладна распрацаваць і правесьці ў жыцьцё канкрэтныя мерапрыемствы, магчымыя ў умовах яго працы з тым, каб скарачэньне выдатку паперы на 30 проц. забясьпечыць поўнасьцю.

Усім акруговым касам належыць неадкладна абгаварыць гэту пастанову сумесна з эканомкамісіямі і прадстаўнікамі рэвізыйных камісій і выпрацаваць усе магчымыя ва ўмовах іх працы мерапрыемствы па практычнаму правядзеньню ў жыцьцё пастановы НК РСІ.

Аб выніках працы камісіі паведаміць нас з тым, каб Галоўсацстрах меў падрабязныя зьвесткі аб практычных кроках, якія прымаюць касы да выкананьня вышэйпаказанай пастановы НК РСІ.

Намесьнік Народнага Камісарыяту Працы
і Начальнік Галоўсацстраху БССР *МЕРКУЛАЎ.*

Ст. Інспэктар па арганізац. працы *ДАВІДОВІЧ.*

---

Друкарня БДВ. Зак. № 2219. У ліку 450 экз. Галоўлітбел № 1280.